

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 5 (592)** **5 ЛЮТАГА 2003 г.**

## Рада ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" 26 студзеня 2003 г.

### *Віншаванне сям'і Марылі Каральковай*

**Паважаныя Ірына і Віктар Каральковы!**

Рада ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" выказвае Вам шчырую ўдзячнасць за паслядоўную грамадзянскую пазіцыю ў барацьбе з мясцовымі ўладнымі структурамі за сваё канстытуцыйнае права навучаць дачку на роднай мове.

Нягледзячы на тое, што чыноўнікі вышэйшага раённага ўзроўню Вас запалохвалі, каб змусіць адмовіцца ад сваіх перакананняў, Вы аказаліся мацнейшымі і даказалі, што праўда і закон на Вашым баку. Ведайце, што Вы не адзінокія, нас мільёны і Ваш грамадзянскі ўчынак – добры прыклад для іншых, тых, хто не пазбавіўся страху.

Віншуем Вас і Вашу дачушку з першай перамогай над тымі, хто выракся свайго. Верым, што дзякуючы Вам у Горках будзе не толькі беларускі клас, але і сапраўдная беларуская школа.

**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"** **Алег Трусаў.**

### *Зварот Рады ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" да кандыдатаў у дэпутаты мясцовых саветаў на выбарах 2 сакавіка 2003 г.*

***ПАВАЖАНЫЯ СЯБРЫ!***

Наперадзе ў нас нялёгкая перадвыбарчая кампанія. Нашы людзі зняверыліся ў сваіх лепшых надзеях, шмат хто наогул не збіраецца ісці на выбары і спадзяецца толькі на самога сябе. Тым не меней, пад ляжачы камень вада не цячэ, і таму мы звяртаемся да Вас з прапановай браць удзел у выбарчай кампаніі па-беларуску, з пачуццём нацыянальнай годнасці.

Звяртайцеся да выбаршчыкаў на роднай беларускай мове, уключайце ў свае прадвыбарчыя платформы пункты аб адкрыцці ў Вашай мясцовасці беларускамоўных класаў, школ, гімназій, студэнцкіх групаў і плыняў, афарміце па-беларуску свае ўлёткі, лозунгі і плакаты – і Вы адразу адчуеце падтрымку тых, каму баліць душа за стан нашай мовы і культуры, хто хоча жыць у заможнай еўрапейскай дэмакратычнай краіне.

Поспеху Вам і перамогі!

**26 студзеня 2003 г., Менск** **Рада ТБМ.**

### *Зварот Рады ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" да выбаршчыкаў*

2 сакавіка ў нашай краіне адбудуцца выбары ў мясцовыя саветы дэпутатаў. Падчас агітацыйнай кампаніі, акрамя іншага, варта звярнуць увагу і на тое, наколькі кандыдат у дэпутаты адстойвае нацыянальныя інтарэсы сваёй краіны, як ставіцца да роднай культуры і мовы – асноўных чыннікаў нацыі і незалежнай дзяржавы.

Таварыства беларускай мовы заклікае падтрымаць тых кандыдатаў, якія ведаюць і шануюць родную мову, карыстаецца ёю і спрыяюць яе пашырэнню. Менавіта ад гэтага залежыць наколькі ён будзе бараніць інтарэсы народа – носьбіта гэтага духоўнага скарбу, інтарэсы незалежнай дзяржавы Рэспублікі Беларусь.

**26 студзеня 2003 г., Менск** **Рада ТБМ.**

### *Пастанова Рады ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"*

**"АБ УПЛАЦЕ СЯБРОЎСКІХ СКЛАДАК (УЗНОСАЎ) НА 2003 ГОД"**

Рада ТБМ пастанаўляе вызначыць наступныя памеры сяброўскіх складак з 1 лютага 2003 года.

1. Для тых, хто працуе – 4 тыс. руб.
2. Для беспрацоўных, студэнтаў і пенсіянераў – 2 тыс. руб.
3. Для вучняў школ, ліцэяў і гімназій – 1 тыс. руб.
4. Для грамадзян Расіі – 60 расійскіх рублёў.
5. Для грамадзян іншых краін – 3 $.

**26 студзеня 2003 г., Менск** **Рада ТБМ.**

## Суд паміж ТБМ і Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь

***27, 28 і 29 студзеня ў Менску адбываліся паседжанні Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь па зыску ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" да Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь у сувязі з пісьмовым папярэджаннем, атрыманым грамадскім аб'яднаннем 26.11.2002 г. за ўстаноўку мемарыяльнага крыжа ў гонар лідскай шляхты і абвестку пра месячнік "Размаўляем па-беларуску". ТБМ суд прайграла.***

Асаблівасцю гэтага працэсу была яго нерадвызначанасць. Усе выдатна разумелі, што калі б Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", якому ўлады з 1994 года надалі статус апазіцыйнага, змагло выйграць у Міністэрства юстыцыі, то гэта была б ужо іншая краіна. Нажаль краіна ў нас тая ж, якая і была.

Тады паўстае пытанне: навошта было судзіцца? Навошта было траціць час і сілы?

Аднак давайце глянем на іншыя вынікі працэсу.

ТБМ не прамаўчала з нагоды вельмі спрэчнага, нягледзячы на вырак суда, папярэджання.

Упершыню трохдзённы працэс у Вярхоўным судзе ішоў цалкам на беларускай мове. Пры гэтым трэба адзначыць выдатнае валоданне мовай усімі дзейнымі асобамі працэсу, за што сябры ТБМ вынеслі падзяку і суддзі, і пракурору, і прадстаўніку Міністэрства юстыцыі.

Упершыню ў лексікон Міністэрства юстыцыі і Вярхоўнага Суда ўвайшоў тэрмін "мемарыяльны крыж". На сёння слова "крыж" не прысутнічае ў беларускіх законах і падзаконных актах.

Вярхоўны Суд канкрэтызаваў парушэнні, дапушчаныя Лідскай гарадской радай ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" і значна зменшыў аб'ём працы па аднаўленні мемарыяльнага крыжа ў вёсцы Беліца.

Гэтым працэсам ТБМ фактычна завяршыла вельмі прадукцыйны 2002 год, на працягу якога Таварыства заставалася, самай актыўнай грамадскай арганізацыяй на тэрыторыі Беларусі. Гэтым жа працэсам ТБМ пачала год, на які прыпадаюць 140-я ўгодкі паўстання Кастуся Каліноўскага.

ТБМ яшчэ раз засведчыла, што ў справе абароны беларускай мовы, беларускай культуры, нашай гістарычнай спадчыны, у справе адраджэння беларускай нацыянальнай свядомасці ад нас "маўчання ягнят" не дачакаюцца, як бы гэта каму не хацелася.

***Яраслаў Грынкевіч.***




**Сябры ТБМ, на ганку Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь.**




### *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Сп. Швэдзюк (Англія) – 30,00 фунтаў.
2. Казлоўская І.І., Менск – 800 р.
3. Антон Фурс, Менск – 3.000 р.
4. Петруковіч Васіль, Менск – 5.000 р.
5. Мішчук Георгі, Менск – 5.000 р.
6. Гарановіч Віталь, Глыбокае – 3.000 р.
7. Суполка Рэфармацыя, Менск – 20 дол.
8. Шкірманкоў Фелікс, Слаўгарад – 5.000 р.
9. Цітоў Леанід, Менск – 1.500 р.
10. Петруковіч Васіль, Менск – 9.000 р.
11. Галгоўскі Леанід, Менск – 10.000 р.
12. Дзеружынскі Авяр'ян, Менск – 5.000 р.
13. Палсцюк Валеры, Менск – 5.000 р.
14. Казлоўская І.І., Менск – 1.100 р.
15. Каржаневіч, Англія – 20 фунтаў.
16. Лісоўскі Станіслаў, Менск – 5.000 р.
17. Фурс Антон, Паставы – 5.000 р.
18. Баркоўскі Віталь, Віцебск – 20.000 р.
19. Спрэчка Анатоль, Мазыр – 5.000 р.
20. Сымон Барыс, Менск – 10.000 р.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

### Сакратарыят ТБМ віншуе сяброў Таварыства, што нарадзіліся ў лютым

Вадзіма Болбаса
Лілею Бублікаву
Таццяну Вабішчэвіч
Леаніда Гаравога
Іосіфа Гарэцкага
Людмілу Давідоўскую
Авяр'яна Дзеружынскага
Ібрагіма Канапацкага
Сяргея Карбановіча
Наталлю Клімовіч
Віталя Кучынскага
Дз. Лявончыкава
Валера Мазынскага
Ігара Марачкіна
Віктара Плітко
Андрэя Русака
Андрэя Сароку
Язэпа Стэпановіча
Андрэя Старжынскага
Вадзіма Строганава
Алеся Туровіча
Сяргея Ушакова
Сяржука Юрэвіча
Даната Яканюка





# Справаздачны даклад за 2002 год Старшыні ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Алега Трусава на паседжанні Рады 26 студзеня 2003 г.

2002 год у жыцці Таварыства адметны актыўнасцю яго сяброў, якая дала канкрэтныя вынікі па самых розных кірунках дзейнасці. Гэтыя кірункі, як мы памятаеце, былі вызначаныя і зацверджаныя ў снежні 2001 года на паседжанні Рады. Галоўны з іх – праца па наданні беларускай мове рэальнага статусу дзяржаўнай, па пашырэнні сферы яе выкарыстання. Гэтая праца палягае на выніках перапісу насельніцтва краіны ў 1999 г., паводле якога 73,7% грамадзян лічаць беларускую мову роднай, а 36,7% з іх карыстаюцца ёю ў штодзённым жыцці. Разам з тым сябры Таварыства добра разумеюць, што да таго часу пакуль роднае слова застаецца незапатрабаваным дзяржавай і грамадствам, радыкальных перамен дамагчыся цяжка. Хіба што іншыя краіны дапамогуць нам у гэтым, як, напрыклад, Францыя, дзякуючы якой французскія фільмы, што ідуць па першым канале БТ дублююцца толькі на беларускую мову. Або Германія, якая заключыла дамову на трансляцыю чэмпіяната свету па футболе пры ўмове, што гэтая трансляцыя будзе весціся па-беларуску. Дарэчы, з гэтай нагоды мы напісалі ліст падзякі нямецкай тэлекампанні "Кірхмедыа". Рэагаванне Таварыства на праявы вынішчэння беларускай мовы дае плён тады, калі мы выступаем гуртам. Прыгадаю толькі, як за кароткі тэрмін, дзякуючы актыўнасці сяброў ТБМ, у аўтаматызаваную службу даведнага часу (088) г. Менска была вернута родная мова. Але пачну з галоўнага.

Важнай перамогай Таварыства сталася тое, што нашыя прапановы былі ўлічаныя ў новай рэдакцыі закона "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь". Калі стала вядома, што насуперак усялякай логіцы ў парламенце Беларусі рыхтуецца праект закона, які прадугледжвае навучанне па ўзору Расійскай Федэрацыі, - Таварыства накiравала ў парламент свае заўвагі да законапраекту, лісты на імя яго распрацоўшчыкаў, старшыням адпаведных камісій, а таксама арганізавала кампанію ў дэмакратычнай і дзяржаўнай прэсе. Быў прыняты зварот да грамадзян з заклікам пратэсту супраць новай рэдакцыі закона "Аб мовах".

Вынікам гэтага з'явіўся артыкул 5 новай рэдакцыі закона, у якім запісана "што дзяржава гарантуе грамадзянам права выбару мовы навучання і выхавання і стварае адпаведныя ўмовы для рэалізацыі гэтага права. Навучанню беларускай мове, выданню літаратуры, падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў на беларускай мове аказваецца дзяржаўная падтрымка". Надзвычай важным з'яўляецца і артыкул 32, паводле якога "сістэма вышэйшай адукацыі забяспечвае грамадзянам магчымасць навучання на адной з дзяржаўных моў Рэспублікі Беларусь шляхам стварэння ў ВНУ беларускамоўных і рускамоўных груп (плыняў)".

Дзякуючы гэтым артыкулам закона Пастанова Міністэрства адукацыі № 48 ад 27. 08. 2001 г. "Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі", выкананне якой мы цэлы год трымалі на сваім кантролі, — атрымала заканадаўчую моц, а мы — магчымасць аказваць уздзеянне на выканкамы, аддзелы адукацыі, кіраўніцтва ВНУ, якія абавязаны выконваць гэтыя дакументы. На жаль, далёка не ўсе нашыя рэгіянальныя структуры прымалі актыўны ўдзел у гэтай працы.

Мы даслалі лісты з канкрэтнымі прапановамі ў кожны аблвыканкам. Атрымалі адказы, з якіх вынікала, што першымі распрацавалі план мерапрыемстваў па рэалізацыі вышэйзгаданай пастановы ў Віцебскім абласным аддзеле адукацыі. А першы рэальны крок зрабіў Менскі гарвыканкам, які ў верасні 2001 г. прыняў рашэнне па адкрыцці ў цэнтры горада беларускамоўнай гімназіі на базе СШ № 23.

Свае запыты мы накіравалі ў 93 раённыя і гарадскія аддзелы адукацыі, а таксама рэктарам 40 дзяржаўных і 12 недзяржаўных ВНУ. Не атрымаўшы адказу ад бальшыні ўстаноў, мы вымушаны былі дасылаць лісты паўторна. Але і пасля гэтага не ўсе аддзелы адукацыі і вышэйшыя навучальныя ўстановы адказалі на нашы лісты. А атрымалі мы іх 71, 30 і 6 лістоў адпаведна дасланым.

Нашы запыты змусілі кіраўнікоў аддзелаў адукацыі звярнуць увагу на прынятую год таму назад Пастанову Мінадукацыі і распрацаваць хоць які-небудзь план мерапрыемстваў па яе рэалізацыі. Але ў пераважнай бальшыні гэтых планаў (за выключэннем Бешанковіцкага і Шумілінскага раёнаў) не было пункта па адкрыцці беларускамоўнай школы ці студэнцкай групы ў ВНУ як таго патрабуе Пастанова Міністэрства. Усе без выключэння кіраўнікі замест таго, каб ствараць умовы для навучання на роднай мове, паведамлялі нам пра тое, што няма ахвотных вучыцца па-беларуску. Як адгукаліся яны на просьбы тых, хто пажадаў вучыцца па-беларуску, красамоўна сведчыць тое, з якой цяжкасцю дамагаліся бацькі разам з Магілёўскай абласной радай ТБМ адкрыцця класа з 4-х чалавек у Магілёўскай нацыянальнай гімназіі, а таксама студэнты 2-га курса лячэбнага аддзялення менскага універсітэта, што хацелі навучацца па-беларуску.

Нарэшце ёсць станоўчы вынік у справе навучання на беларускай мове ў Горках Марылі Каральковай, якая пачала наведваць школьныя заняткі. Для яе цяпер праводзяцца беларускамоўныя кансультацыі па абраных ёй жа прадметах – матэматыцы, гісторыі і прыродазнаўству. Беларускую мову і літаратуру яна вывучае разам з класам.

Аднакласнікі ставяцца да Марылі прыязна і распавядаюць, як бачылі яе па тэлевізары. Настаўнікі ў нязвыклай для сябе сітуацыі адчуваюць сябе ніякавата, але ўспрымаюць яе сур'ёзна і сцвярджаюць, што будуць вучыць мову разам з Марыляй. Бацькі такой формай навучання незадаволеныя, таму пытанне адкрыцця беларускамоўнага класа ў Горках застаецца нявырашаным.

На жаль, жаданне сям'і Юрковых з Дрыбіна навучаць сваю дачку на беларускай мове застаецца і па сёння незадаволеным.

Флагманам адраджэння беларускасці сёння з'яўляецца Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя М. Танка. Яшчэ 25 траўня 2000 г. яго вучоная рада зацвердзіла перспектыўную праграму падтрымкі беларускай мовы. На беларускай мове тут вядзецца адукацыя на факультэце даўніверсітэцкай падрыхтоўкі, створаны беларускамоўныя плыні на факультэтах матэматычным, фізічным і народнай культуры, а на факультэтах прыродазнаўства, педагогікі і методыкі пачатковага навучання ёсць беларускамоўныя студэнцкія групы.

26 красавіка мінулага года былі зацверджаны мерапрыемствы па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў вучэбна-выхаваўчым працэсе Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны. У адпаведнасці з імі з верасня 2002 года на спецыяльнасці "Беларуская філалогія" для студэнтаў першага курса ўсе дысцыпліны, акрамя рускай мовы і літаратуры ды замежнай мовы, павінны выкладацца па-беларуску. Акрамя таго, на розных факультэтах з верасня па-беларуску меркавалася выкладаць 75 розных курсаў і спецкурсаў у асноўным гуманітарнага профілю. Значная колькасць прадметаў выкладаецца па-беларуску ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і Менскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце, а таксама ў БДУ, які даслаў нам пасля трох нашых настойлівых зваротаў падрабязныя звесткі аб выкладанні ва ўніверсітэце прадметаў на беларускай мове.

Ёсць беларускамоўныя студэнцкія групы на гістарычных факультэтах БДУ і Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. У астатніх ВНУ беларускамоўных груп няма, і з верасня 2002 г. яны не створаны. Пры гэтым кіраўнікі ВНУ, як і, дарэчы, дырэктары школ, не вядома па чыёй ініцыятыве робяць розныя апытанні сярод бацькоў, вучняў і студэнтаў, прымушаючы іх пісаць заявы з просьбай навучаць сваіх дзяцей па-беларуску. Гэтая заганная практыка цалкам пярэчыць Закону аб адукацыі, дзе ў артыкуле 5 гаворыцца аб тым, што заявы аб навучанні дзяцей на сваёй роднай мове пішуць толькі прадстаўнікі небеларускіх нацыянальных супольнасцяў.

Дасланыя нам адказы сведчаць, што найбольш беларускамоўных сярэдніх навучальных устаноў захавалася на Меншчыне, дзе лідэрства належыць Капыльскаму і Клецкаму раёнам. Тут амаль усе школы, за выключэннем адной, маюць статус беларускамоўных.

Сярод раёнаў Берасцейскай вобласці ў лепшы бок вылучаецца шматлюдны Столінскі раён, дзе з 58 школ з беларускай мовай навучання -- 49, 6 – з дзвюма мовамі навучання і 3 – з рускай мовай навучання.

Самае сумнае відовішча – на Магілёўшчыне, радзіме братоў Гарэцкіх і першага прэзідэнта Беларусі. Фактычна ў бальшасці раённых цэнтраў, у тым ліку і ў старажытным Мсціславе, дзе праходзілі святкаванні Дзён беларускай пісьменнасці і друку, адсутнічаюць не толькі беларускамоўныя школы, але і класы.

Нашы запыты змусілі кіраўнікоў раённых аддзелаў адукацыі звярнуць увагу на прынятую ўжо амаль год назад Пастанову № 48, але ў адказах з Буда-Кашалёва, Расонаў і Міёраў гэты дакумент нават не згадваецца і магчыма там раней аб ім нават не ведалі.

Высветлілася таксама і тое, што некаторыя кіраўнікі не разумеюць або не жадаюць разумець сутнасці Закона аб мовах (глава 3, арт. 23). Напрыклад, у Чавусах беларускі клас будзе адкрыты пры ўмове, калі таго пажадаюць бацькі. Яшчэ больш дзіўна, што такой жа думкі прытрымліваецца кіраўніцтва Гарадзенскага аблвыканкаму.

Аднак у большасці адказаў ёсць падрабязныя планы рэалізацыі вышэйзгаданай пастановы. Тут варта адзначыць працу гарадскога аддзела адукацыі ў Гомелі, раённых аддзелаў у Віцебску і Горадні, а таксама Бешанковіцкага ды Шумілінскага РАА.

Трэба адзначыць, што наша ліставанне паўплывала на тое, што Мінадукацыі правяло ў Віцебску выязную калегію па выкананні Пастановы № 48 у Віцебскай вобласці.

Вось такія нашы вынікі супрацоўніцтва з уладнымі структурамі па пашырэнні беларускай мовы ў сферы адукацыі. Яны маглі б быць значна большымі, каб рэгіянальныя арганізацыі праявілі належную актыўнасць. На жаль, гэтага не адбылося. А сярод тых, хто далучыўся да гэтай працы трэба згадаць Віцебскую Гарадзенскую і Магілёўскую абласныя, Горацкую, Клецкую, Дубровенскую, Пухавіцкую, Лёзненскую, Дзятлаўскую, Слонімскую, Шаркаўшчынскую і Пружанскую гарадскія і раённыя арганізацыі, раду Партызанскага раёна г. Менска, якія паведамілі нам пра свае звароты ў аддзелы адукацыі.

Цягам 2002 года былі распрацаваныя два варыянты праекту структуры Стратэгіі развіцця беларускай мовы. Адзін – рабочай групай у складзе Г. Цыхуна, С. Запрудскага, А. Анісім, Ул. Кошчанкі; а другі – сябрам гэтай групы С. Суднікам. Каб выпрацаваць канчатковы варыянт, была створана рабочая група ў складзе А. Трусава, В. Кузьміч, А. Пяткевіча, С. Барыса, Н. Жучковай, якая прапануе на сённяшняй нарадзе абмеркаваць і прыняць перапрацаваны варыянт Стратэгіі развіцця беларускай мовы.

Сярод планавых заданняў варта запыніцца на працы па ўдзеле ў міжнародным сімпозіюме "Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі", які праходзіў 8 – 10 ліпеня пад патранатам ЮНЕСКА. У рамках гэтага сімпозіюму мы прынялі ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні трох "круглых сталоў": "Аб нацыянальнай тоеснасці мовы ў рэкламе і маркетынгу" (29 красавіка, адказная Алена Анісім); "Беларуская мова. Інтэрнэт і кампутар" (20 траўня, адказны Сяргей Кручкоў); "Мова і адукацыя. Падручнікі, методыкі і дапаможнікі" (17 чэрвеня, адказная Людміла Дзіцэвіч). Падчас сімпозіюму Генеральнаму дырэктару ЮНЕСКА Каіціру Мацууру быў перададзены зварот ТБМ да сусветнай супольнасці з нагоды катастрафічнага становішча ў сферы нацыянальнага тэлевяшчання ў Рэспубліцы Беларусь. З дакладам "Заканадаўчы аспект развіцця беларускай мовы падчас глабалізацыі" на пленарным паседжанні сімпозіюму выступіў старшыня Таварыства Алег Трусаў. У рабоце секцый прагучалі даклады Людмілы Дзіцэвіч "Мова і адукацыя", Сяргея Кручкова, Алены Анісім. Усе гэтыя даклады ўвайшлі ў зборнік матэрыялаў Міжнароднага сімпозіюму, які хутка пабачыць свет на англійскай і беларускай мовах.

Дзякуючы настойлівасці і адказнасці намесніка старшыні Сяргея Кручкова асобным зборнікам, таксама на дзвюх мовах, выдадзены зборнік матэрыялаў "круглага стала" на тэму "Беларуская мова. Інтэрнэт і кампутар". У гэты зборнік увайшлі даклады сяброў нашага Таварыства Уладзіміра Вераб'ёва, Уладзіміра Кошчанкі, Сяргея Кручкова і Андрэя Кірэева. Гэты "круглы стол" паказаў, што ў краіне ёсць шмат напрацовак у сферы ўкаранення беларускай мовы ў праграмнае забеспячэнне. Як высветлілася, з прычыны кампутарнай непісьменнасці ўладных структур гэтыя напрацоўкі, на жаль, застаюцца незапатрабаванымі. І наш клопат – змяніць сітуацыю ў лепшы бок.

У ліку кніг, якія пабачылі свет у 2002 годзе, варта назваць "Беларускі спеўнік", выдадзены Гарадзенскай абласной радай.

Мінулы год быў багаты на значныя юбілейныя даты. Да 110-х угодкаў Браніслава Тарашкевіча мы выдалі кішэнны каляндарык на 2002 год і плакат. Былі змешчаны публікацыі ў "Нашым слове", праведзена вечарына ў кінатэатры "Змена", удзел у якой бралі Ніл Гілевіч, Арсень Ліс, Уладзімір Содаль, Уладзімір Міхнюк, Сяргей Панізнік, а таксама сваякі Тарашкевіча – Ірына Ніжанкоўская і Рыма Гірыловіч. Шляхам перапіскі з уладнымі структурамі мы дамагаліся ўшанаваць памяць Браніслава Тарашкевіча ў назвах вуліц. Але ўлады да нашых прапаноў засталіся абыякавымі. Зазначым, што шмат мерапрыемстваў па ўшанаванні памяці Тарашкевіча было наладжана ТБМ Віленскага краю па ініцыятыве кіраўніка Юрыя Гіля.

*(Заканч. у наст нумары.)*

# РАШЭННЕ
## ІМЕМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

29 студзеня 2003 г. Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь, суддзя Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь Самалюк В. І.,

сакратар Папека Л. М.,

з удзелам пракурора Раманенкі І. У.,

разгледзеўшы ў зале судовых пасяджэнняў Вярхоўнага Суда справу па скарзе грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" на пісьмовае папярэджанне Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь,

**устанавіў:**

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" ў скарзе зазначыла, што 26 лістапада 2002 г. Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь вынесла грамадскаму аб'яднанню пісьмовае папярэджанне. Падставамі для яго вынясення з'явіліся парушэнні заканадаўства і статута пры ўстаноўцы мемарыяльнага крыжа ў весцы Беліцы Лідскага раёна Лідскай арганізацыяй ТБМ, а таксама парушэнні пры афармленні рэкламнага лістка па правядзенні акцыі беларускага месячніка "Размаўляем па-беларуску". Лічачы папярэджанне неабгрунтаваным і незаконным, грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" прасіла яго адмяніць.

У судовым пасяджэнні прадстаўнікі грамадскага аб'яднання Трусаў А. А., Дзіцэвіч Л. М., Суднік С. В., Чаўсаў Ю. В., Кручкоў С. М. скаргу падтрымалі і ў тлумачэннях падкрэслілі, што аб'яднанне не парушыла заканадаўства і статута пры ўстаноўцы мемарыяльнага крыжа. Рашэнне аб яго ўстаноўцы было прынята Лідскай арганізацыяй ТБМ, якая дзейнічае на тэрыторыі раёна, на падставе дазволу Беліцкага сельскага Савета, адміністрацыйнае заканадаўства пры правядзенні сходу не парушалася. У інфармацыйным лістку была змешчана сімволіка з назвай арганізацыі, якая зарэгістравана ў адпаведным парадку.

Прадстаўнік міністэрства юстыцыі Харытон А.П. скаргу не прызнаў і патлумачыў, што грамадскае аб'яднанне парушыла заканадаўства і статут, паколькі рашэнне аб устаноўцы мемарыяльнага крыжа на тэрыторыі Лідскага раёна было прынята Лідскай гарадской арганізацыяй ТБМ без адпаведных узгадненняў і дазволу. Пры ўстаноўцы мемарыяльнага крыжа быў праведзены несанкцыянаваны сход грамадзян. Тыя абставіны, што ў інфармацыйным лістку не ўжываецца афіцыйная назва арганізацыі, пацвярджаюцца тэкстам лістка, і гэта парушэнне прызнала грамадскае аб'яднанне.

Даследаваўшы пісьмовыя доказы, заслухаўшы меркаванне пракурора, суд прыходзіць да наступнай высновы.

У адпаведнасці з арт. 28 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб грамадскіх аб'яднаннях" пісьмовае папярэджанне, вынесенае кіруючаму органу міжнароднага ці рэспубліканскага грамадскага аб'яднання, можа быць абскарджана ў Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь.

Судом устаноўлена, што 26 лістапада 2002 г. Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь вынесла грамадскаму аб'яднанню "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" пісьмовае папярэджанне ў сувязі з парушэннямі заканадаўства і статута аб'яднання пры ўстаноўцы мемарыяльнага крыжа ў вёсцы Беліцы Лідскага раёна і пры афармленні рэкламнага лістка па правядзенню акцыі беларускага месячніка "Размаўляем па-беларуску".

З прадстаўленых прадстаўнікамі юрыдычных асоб доказаў бачна, што адзначаныя ў папярэджанні парушэнні меслі месца.

Наяўныя ў справе пратаколы, заявы, публікацыі ў газетах сведчаць аб тым, што арганізацыйныя мерапрыемствы і ўстаноўка мемарыяльнага крыжа былі праведзены Лідскай гарадской радай "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", у выніку чаго яна выйшла за памеры тэрыторыі сваёй дзейнасці. Лідская раённая арганізацыя не зарэгістравана ў райвыканкаме, што пацвярджаецца рашэннем райвыканкама ад 30.11.1999 г. і пісьмовым тлумачэннем старшыні Лідскай гарадской рады ТБМ Судніка С.В. Да ўстаноўкі мемарыяльнага крыжа не было ўзгоднена пытанне аб адводзе зямельнага ўчастка і не быў атрыманы дазвол на яго ўстаноўку ў Гродзенскім аблвыканкаме.

Гэтыя пытанні рэгулююцца "Палажэннем аб парадку заняцця і прадастаўлення зямельных участкаў", зацверджаным Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 6.08.2002 г. № 422 , пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 6.08. 2000 г. № 1393 "Аб парадку праектавання, стварэння (будаўніцтва), рэканструкцыі і прыёмкі твораў манументальнага і манументальна-дэкаратыўнага мастацтва на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь", рашэннем Гродзенскага аблвыканкаму ад 16.08.1999 г. № 332 "Аб рэгуляванні размяшчэння культавых будынкаў і збудаванняў на тэрыторыі вобласці". Таму тлумачэнні прадстаўнікоў аб'яднання, што яны пры ўстаноўцы мемарыяльнага крыжа не парушылі заканадаўства, суд не прымае да ўвагі.

Факт правядзення без адпаведнага дазволу сходу жыхароў вёскі Беліцы пацвярджаецца публікацыямі ў газетах "Наша слова" ад 18 верасня 2002 г. і "Биржа-информация" от 19 верасня 2002 г., пісьмом старшыні Лідскага райвыканкаму ад 25.09.2002 г. Аб парушэнні арт. 50 ГК Рэспублікі Беларусь пры афармленні інфармацыйнага лістка "Размаўляем па-беларуску" сведчыць яго змест.

Такім чынам, у Міністэрства юстыцыі былі падставы для вынясення аб'яднанню папярэджання, а ў задавальненні скаргі неабходна адмовіць.

Кіруючыся арт. 310 ГПК Рэспублікі Беларусь, суд

**вырашыў:**

У задавальненні скргі грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" на пісьмовае папярэджанне Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь адмовіць.

Рашэнне ўступае ў законную сілу неадкладна пасля яго абвяшчэння і касацыйнаму абскарджанню не падлягае.

**Суддзя Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь В. І. Самалюк.**

Правільна:
**Суддзя вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь В. І. Самалюк.**

## Нашы шэрагі растуць

23 студзеня Сакратарыят ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" зарэгістраваў суполкі ТБМ, якія стварыліся ў Берасцейскім і Драгічынскім раёнах. Таксама ствараюцца нашыя суполкі ў Іўеўскім і Бераставіцкім раёнах Гарадзенскай вобласці. Сакратарыят ТБМ віншуе ўсіх новых сяброў у гэтых раёнах і заклікае папаўняць свае шэрагі

**Сакратарыят ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны".**



МІНІСТЭРСТВА ЮСТЫЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
220004, г. Мінск, Калектарная,10.
Тэл. 220-86-87, факс 220-96-84

МИНИСТЕРСТВО ЮСТИЦИИ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
220004, г. Минск, Коллекторная,10.
Тел. 220-86-87, факс 220-96-84

### Пісьмовае папярэджанне з-за парушэнняў патрабаванняў Закона Рэспублікі Беларусь "Аб грамадскіх аб'яднаннях", іншых актаў заканадаўства і Статута

21 студзеня 2003 г. № 06-04 (678)

*Рада Грамадскага аб'яднання*
*"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"*
*вул. Румянцава, 13, 220005, г. Мінск*

Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь устаноўлена, што арганізацыйная структура Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", якая дзейнічае ў г. Ліда Гродзенскай вобласці, карыстаецца пячаткай, на якой назва юрыдычнай асобы не адпавядае статутнай (адсутнічае ўказанне на арганізацыйна-прававую форму), а таксама змешчана сімволіка, якая адрозніваецца ад зарэгістраванай. Пры гэтым названыя дзеянні ўчынены, нягледзячы на пісьмовае папярэджанне яшчэ ад 17.07.2000 № 06-10(8351), вынесенае за такія ж парушэнні.

У выніку парушаюцца патрабаванні арт. 50 Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь, п.п.1.1 і 1.6 Статута і, як наступства апошняга, арт. 4 і 12 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб грамадскіх аб'яднаннях".

З улікам выкладзенага, кіруючыся артыкуламі 26, 27 і 28 памянёнага Закона, Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь выносіць Радзе Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" пісьмовае папярэджанне.

Аб прынятых мерах прапануем паведаміць Мінюсту Беларусі ў месячны тэрмін.

Дадзенае пісьмовае папярэджанне можа быць абскарджана ў Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь у месячны тэрмін.

**Першы намеснік Міністра А. С. Петраш.**

Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў
220010, г. Мінск, вул. Савецкая, 11
Дом Урада
тэл/факс: 227-19-03
E-mail: centrizb@pmrb.gov.by



Центральная комиссия Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов
220010, г. Минск, ул. Советская, 11
Дом Правительства
тел/факс: 227-19-03
E-mail: centrizb@pmrb.gov.by

№ 102/01-7 ад 18.09.2002
на № 485 ад 11.09.2002

**Старшыні Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Трусаву А. А.**

**Паважаны спадар Трусаў!**

Паведамляю, што ў Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў менавіта на беларускай мове распрацаваны ўзоры бланкаў выбарчых дакументаў, у тым ліку і паштовак-паведамленняў, якія будуць выкарыстоўвацца пры правядзенні выбараў дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў у 2003 годзе.

Размяшчэннем заказаў на друкаванне запрашэнняў выбаршчыкам прыйсці на выбарчыя ўчасткі будуць займацца раённыя і гарадскія выбарчыя камісіі. Як вы разумееце, камісіі будуць створаны толькі пасля назначэння выбараў. Звесткі пра размяшчэнне тэрытарыяльных камісій, іх склад і тэлефоны будуць апублікаваны ў сродках масавай інфармацыі.

Што тычыцца маіх публічных выступленняў, у тым ліку і на беларускім радыё, то яны ні ў чым не супярэчаць Закону Рэспублікі Беларусь "Аб мовах Рэспублікі Беларусь".

**Старшыня камісіі Л. Ярмошына.**

## Беларускамоўная версія фільма Анджэя Вайды "Пан Тадэвуш"




Беларускамоўная версія фільма заснаваная на паэтычным перакладзе Пятра Бітэля (1912-1991, м. Радунь, Лідскага павету), як найбольш прымальным з гледзішча спецыфікі арыгінальнай версіі. У пэўных месцах уводзіліся элементы паэтычных перакладаў Браніслава Тарашкевіча і Язэпа Семяжона.

... Дзея твора адбываецца на пачатку XIX стагоддзя ў Беларусі. Край, што знаходзіцца пад расійскай уладай, стаіць на парозе векапомных зменаў. Да берагоў Нёмана падходзіць войска Напалеона. Шляхта бачыць у ім надзею на збаўленне і рыхтуе вызвольнае паўстанне...

Вдэаклуб заклікае дапамагчы ў распаўсюджанні фільма "Пан Тадэвуш".

**Каардынаты клуба:**
220107, Менск, а/с 150.
Пейдж. 211-85-85, аб. 25402.
E-meil: belvidea@hotmail.com.
Інтэрнэт: http://belvidea.cjb.net.

## Вуліцы Дамейкі, Тарашкевіча, Труса

Менскай вуліцы № 7 малапавярховай зябудовы ў Вялікай Сцялянцы нададзена імя Ігната Дамейкі. Вуліца № 8 атрымала імя Браніслава Тарашкевіча, а № 9 – Паўлюка Труса. Цяпер ТБМ дабіваецца з'яўлення вуліц Кляштарнага, Аляхновіча, Лёсіка.

## "Казкі новыя ў свет"

У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы ў Менску адкрылася выстава габеленаў і графічных работ мастачкі Людмілы Пятруль "Казкі новыя ў свет".

Паэтычныя вобразы беларускіх песняроў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча натхнілі Людмілу Пятруль на стварэнне адметных твораў у галіне дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і графікі.

Выстава экспануецца да 24 лютага штодзённа з 10.00 да 17.00 па адрасе: вул. Я.Купалы, 4.

# ПА ПРАЦЫ І ПЛЁН

Прадстаўнікам беларускай культуры, журналістыкі і публіцыстыкі, філалагічнай навукі і выдавецкай справы добра вядома імя Георгія Фёдаравіча Юрчанкі, якому 31 студзеня 2003 года спаўнілася 75 гадоў з дня нараджэння. Творчая біяграфія гэтага чалавека з'яўляецца вельмі цікавай і насычанай.

Нарадзіўся Г. Юрчанка ў студзені 1928 года ў вёсцы Кудрычы Мсціслаўскага раёна Магілёўскай вобласці ў сялянскай сям'і. Вучыўся у Мсціслаўскай сярэдняй школе, потым паступіў у Магілёўскі настаўніцкі інстытут, пасля заканчэння якога працуе настаўнікам беларускай і рускай мовы і літаратуры ў школах Дзятлаўскага і Воранаўскага раёнаў Гарадзеншчыны.

Працу ў школе малады настаўнік спалучае з вучобай завочна ў Гарадзенскім педагагічным інстытуце на філалагічным факультэце, які заканчвае ў 1959 годзе. Сваім фармаваннем як філолага і пісьменніка Георгій Юрчанка абавязаны вельмі многім вядомаму беларускаму крытыку і літаратуразнаўцу Якубу Усікаву і мовазнаўцу Пятру Юргілевічу, у якіх вучыўся, набіраўся досведу і якія прадвызначылі, па словах самога Георгія Фёдаравіча, яго далейшы лёс журналіста, крытыка, публіцыста, мовазнаўца, выдавецкага работніка. Нарысы і замалёўкі Георгія Юрчанкі змяшчаюцца ў мсціслаўскай раённай газеце, а таксама ў газетах "Звязда", "Літаратура і мастацтва", "Сельская газета", "Мінская праўда", "Вячэрні Мінск", у часопісах "Полымя", "Вожык". Мсціслаўская раённая газета ў 15 нумарах надрукавала нарыс Г. Юрчанкі па гісторыі Мсціслаўшчыны. Выходзяць артыкулы і нарысы яго па культурнае і літаратурнае жыццё рэспублікі. За плённую журналіцкую і публіцыстычную дзейнасць Георгій Юрчанка ў 1963 годзе выбіраецца сябрам Саюза журналістаў СССР.

Вяршыняй журналіцкай і публіцыстычнай дзейнасці Георгія Юрчанкі з'явілася яго кніга "На мсціслаўскай зямлі ўзгадаваны. Нарыс жыцця і навуковай дзейнасці П. П. Кабекі", якая выйшла ў выдавецтве "Навука і тэхніка" ў 1986 годзе. Гэта кніга пра выдатнага фізіка члена-карэспандэнта АН СССР Паўла Паўлавіча Кабеку (1897-1954) – нашага земляка, аднавяскоўца Георгія Юрчанкі, паплечніка і калегі такіх карыфеяў савецкай фізічнай навукі, як акадэмікі А. Ф. Ёфэ, П. Л. Капіца, І.В. Курчатаў, М. М. Сямёнаў, В. Д. Скабяльцын, Л. Д. Ландаву, Я. Б. Зяльдовіч, Я.І. Фрэнкель, А. І. Аліханаў, Л. А. Арцымовіч. У 1991 годзе выйшла на рускай мове другое выданне гэтай кнігі, дапоўненае новымі матэрыяламі і фактамі, сабранымі аўтарам дадаткова да тых, на аснове якіх быў напісаны беларускамоўны варыянт кнігі.

Вядомы Георгій Юрчанка філалагічнай і пісьменніцкай грамадскасці і як літаратурны крытык. 1959-1961 гады былі гадамі навучання Г. Юрчанкі ў аспірантуры пры інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР. У гэты час ён займаецца вывучэннем творчасці вядомага беларускага пісьменніка ул. Дубоўкі. Г. Юрчанкам апублікаваны ў "Полымі", "Літаратуры і мастацтве", "Чырвонай змене" тры дзесяткі артыкулаў і рэцэнзій, у якіх даецца грунтоўны аналіз літаратурных твораў такіх беларускіх пісьменнікаў, як М. Скрыпка, А. Бажко, М. Даніленка, В. Гігевіч, А. Наўроцкі, В. Каваленка, М. Грынчык. Георгій Юрчанка першым адгукнуўся на з'яўленне аповесці Васіля Быкава "Жураўліны крык", якая была змешчана ў "ЛіМе" ў канцы красавіка 1960 года. Выступіў Г. Юрчанка і з характарыстыкай моўных асаблівасцяў апавяданняў В. Хомчанкі і аповесці А. Пальчэўскага "Ты не адзін". Георгій Юрчанка з'яўляецца ўкладальнікам зборніка паэзіі Сяргея Фаміна (1906-1941) "Дымнае жыта. Вершы. Паэмы. Пераклады" (1991), да якога напісаў прадмову і зрабіў каментарыі кожнага з паэтычных твораў, уключаных у гэты зборнік.

Другой гранню багатага таленту Г. Юрчанкі з'яўляецца яго пісьменніцкая дзейнасць. Менавіта, як пісьменнік, як паэт пачаў ён сваё творчае жыццё. Першыя лірычныя вершы яго былі апублікаваны ў 1959 годзе ў воранаўскай раённай газеце. Найбольш жа ярка пісьменніцкі талент Георгія Юрчанкі праявіўся ў літаратурных пародыях і эпіграмах. Упершыню пародыі Юрчанкі былі апублікаваны ў часопісе "Вожык" у 1960 годзе. "Вожыкаўцы" вельмі спрыяльна адгукнуліся на першыя пародыі маладога пісьменніка і далі шырокую дарогу яго творам малога сатырычнага жанру. У серыі "Бібліятэка "Вожыка" ў 1965 годзе выйшла першая кніжка пародый і эпіграм Г. Юрчанкі пад назвай "Распрэжаны Пегас". Талент Юрчанкі-пісьменніка рос і мужнеў. Выходзяць адна за адной кніжкі пародый і эпіграм : "Вярхом на вожыку" (1968), "Немеладычныя мелодыі" (1974), "Парнаскія ўхабы" (1979), "У натхнёнай паграбеньцы" (1983), "Негаблівая пегасня" (1989), "Абаранкі пад хрэнам" (1994). У зборніках сабраны пародыі на беларускіх празаікаў, паэтаў, песеннікаў, драматургаў, крытыкаў. Пад абстрэл парадыста трапляюць уяўная глыбакадумнасць, літаратурная поза, неглыбокае пранікненне ў сутнасць з'яў, непатрэбная ўскладненасць, захапленне словатворчасцю, празмернае злоўжыванне дыялектнымі словамі, драбнатэм'е, мнагаслоўе, гладкапіс, маралізатарства і інш. Г. Юрчанка трапна заўважае недахопы, як асобных твораў, так і творчасці ў цэлым таго або іншага пісьменніка. Талент Юрчанкі-парадыста па ўменні выбраць патрэбнае ў неабсяжным моры літаратурных з'яў, ва ўменні дасягнуць камічнага эфекту. Усё гэта робіць зборнікі пародый і эпіграм аўтара вясёлымі і цікавымі.

Георгій Юрчанка – сябар Саюза пісьменнікаў з 1975 года.

Трэцім відам творчай дзейнасці Георгія Юрчанкі з'яўляецца беларускае мовазнаўства, а дакладней збор, вывучэнне і сістэматызацыя лексікі і фразеалогіі гаворак роднай Мсціслаўшчыны. Г. Юрчанка – шчыры збіральнік лексікі, фразеалогіі, прыказак, прымавак, іншых выслоўяў і моўных адзінак і ўкладальнік дыялектных слоўнікаў. Ён уражвае спецыялістаў-мовазнаўцаў багаццем сабранага ім і лексікаграфічна апрацаванага моўнага матэрыялу. Першай лексікаграфічнай працай Юрчанкі быў "Дыялектны слоўнік" (1966), у якім аўтарам растлумачана значэнне 2170 слоў, не лічачы варыянтаў і формаў.

У 1969 годзе Г. Юрчанка выдаў сінанімічны слоўнік па дыялектнай лексіцы, які назваў "Народная сінаніміка". У ім распрацавана 440 сінанімічных радоў. Гэта быў першы слоўнік па сінаніміцы дыялектнай лексікі.

У 1972 годзе Г. Юрчанка выдае першую кнігу трохтомнага фразеалагічнага слоўніка на літары А – З пад назвай "І коціцца і валіцца". Другі том слоўнік на літары І – П пад назвай "І сячэ і паліць" выйшаў у 1974, а трэці (на літары Р – Я) пад назвай "Слова за слова" – у 1977 годзе. У загалоўкі ўсіх трох тамоў слоўніка вынесены жывыя мясцовыя ўстойлівыя выразы. Гэта першы адносна поўны слоўнік фразеалагізмаў адной гаворкі (Чырванагорскага сельсавета Мсціслаўскага раёна). У слоўніку пададзена і растлумачана 4425 фразеалагічных адзінак, многія з якіх маюць лексічную і іншую варыянтнасць, а таксама разнастайныя дэрывацыйныя ўтварэнні. У канцы кожнага з трох тамоў фразеалагічнага слоўніка падаецца слоўнік народных слоў, якія не ўвайшлі ў ранейшыя публікацыі аўтара, а таксама тыя, што сустракаюцца ў ілюстрацыях да фразеалагізмаў у апошнім даведніку.

У 1981-1985 гадах Георгій Юрчанка выдаў трохтомную працу па дыялектнай лексіцы пад назвай "Народнае вытворнае слова". У трох кнігах апошняга слоўніка пададзена і растлумачана каля 16200 лексічных адзінак і шырока паказана форма – і словаўтваральная сістэма лексікі ў гаворцы Мсціслаўшчыны, яе выключна багатая сінаніміка і эмацыянальна-вобразная афарбоўка. Спосаб падачы ў гэтым слоўніку – алфавітна-гнездавы камбінаваны. Асобнымі гнёздамі прыводзяцца аднаэначныя аднакаранёвыя словы, аднакаранёвыя назоўнікі мужчынскага і жаночага роду дзеянні, дзеясловы закончанага і незакончанага трыванняў, незалежныя і залежныя дзеясловы, а таксама дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі да іх, назоўнікі, прыметнікі і прыслоўі са значэннем памяншальнасці, узмацняльнасці, павелічальнасці. Такое кампактнае размяшчэнне дазволіла сэканоміць месца для падачы вялікай колькасці слоў і ілюстрацый, паказаць слова – ўтваральнае багацце гаворкі.

У 1988 годзе выйшла з друку лексікаграфічная праца Юрчанкі "Сучаснае народнае слова. З гаворкі Мсціслаўшчыны. Слоўнік", у якую ён уключыў каля 4 тысяч слоў. Лексічны матэрыял для гэтай працы аўтар сабраў у 1970 – 80 –я гады. Стуктура гэтага слоўніка такая ж, як і папярэдняй трохтомнай лексікаграфічнай працы.

У 1970 – 1998 гадах Георгій Юрчанка апублікаваў трохтомны дыялектны слоўнік пад назвай "Сучасная народная лексіка", у якім пададзена і растлумачана звыш 17 тысяч дыялектных слоў. Спосаб падачы ў гэтым слоўніку слоў такі ж, як і ў дзвюх папярэдніх лексікаграфічных працах.

У 2002 годзе пабачыла свет чарговая праца Г. Юрчанкі "Народнае мудраслоўе. Слоўнік". Слоўнік аб'ёмам у 16 аўтарскіх аркушаў складаецца з чатырох частак. У першай частцы "Прыказкі" сістэматызавана і растлумачана 808 прыказак, што ўжываюцца ва ўсходніх гаворках Беларусі. Пры падачы прыказак улічаны ўсе магчымыя варыянты той ці іншай канкрэтнай прыказкі. Другая частка гэтай працы Юрчанкі – "фразеалагізмы". Тут прыведзены і растлумачаны 881 фразеалагізм. Гэтыя фразеалагізмы былі выяўлены ў гаворках збіральнікам пасля тых, што ўвайшлі ў яго трохтомны фразеалагічны слоўнік, згаданы вышэй. У трэцяй часцы працы Г. Юрчанкі – "Параўнанні" – падаецца і, што вельмі важна, тлумачыцца 380 народных параўнанняў. Апошні раздзел кнігі Георгія Фёдаравіча называецца "Лексіка". У ім пададзена, растлумачана і праілюстравана прыкладамі з жывой гаворкі 1957 слоў (не лічачы памяншальных, павелічальных варыянтаў, што змяшчаюцца лексікографам у гняздзе са сваімі базавымі словамі).

Народная мова па сутнасці невычэрпная: акрамя названых тут слоўнікаў, Георгій Юрчанка апублікаваў таксама значную колькасць артыкулаў па дыялектнай лексіцы, прычым большасць з гэтых публікацый асаблівыя па змесце, бо раскрываюць, калі можна так сказаць, цяжкадаступныя і малавывучаныя лексічныя пласты народнай мовы.

Публікаваліся таксама зборы мікратапанімічных і фальклорных матэрыялаў Г. Юрчанкі (у зборніках "Пытанні беларускай таланімікі", 1970 і "Праблемы сучаснага беларускага фальклору", 1969).

Падсумоўваючы лексікаграфічны набытак Георгія Юрчанкі, трэба сказаць, што ім сабрана і апублікавана ў выглядзе слоўнікаў, артыкулаў і іншых збораў звыш 100 тысяч моўных адзінак і фальклорных матэрыялаў.

Слоўнікі Юрчанкі высока ацэнены ў друку вядомымі спецыялістамі – мовазнаўцамі. Многа рэцэнзій паявілася на іх у рэспубліканскім, саюзным і замежным друку.

За гады сваёй творчай дзейнасці Георгій Юрчанка падрыхтаваў і апублікаваў больш як 500 работ. Гэта, як было адзначана вышэй, - пародыі і эпіграмы, сатырычныя творы, вершы і замалёўкі, публіцыстычныя і навуковыя артыкулы, літаратурныя агляды і рэцэнзіі, слоўнікі, публіцыстычныя кнігі і г.д.

І нарэшце, нельга коратка не спыніцца на выдавецкай дзейнасці Г. Юрчанкі. З 1961 па 1988 год месцам яго працы з'яўлялася рэдакцыя літаратуры і мастацтва выдавецтва "Навука і тэхніка" ў Менску, якой Георгій Фёдаравіч кіраваў з 1962 па 1988 год. За 25 гадоў кіраўніцтва і працы праз рукі і вочы Г. Юрчанкі прайшло і ўбачыла свет звыш 600 назваў кніг, брашур, штогоднікаў і інш.

Калегі Г. Юрчанкі і ўсе, хто сутыкаўся з ім у выдавецкай, грамадскай і іншай працы, асноўнымі рысамі яго характару называюць прынцыповасць, актыўнасць, незвычайную працавітасць, сціпласць.

Так, зайздросны, унікальны і багаты талент у Георгія Юрчанкі. Гэта рэдкі выпадак у гісторыі нашай культуры, калі ў адной асобе спалучаюцца і творча ўзаемадзейнічаюць розныя грані таленту чалавека, які служаць і будзе служыць добрым прыкладам для многіх і многіх маладых дзеячаў культуры, навукі, выдавецкай справы.

Віншуем дарагога Георгія Фёдаравіча з 75-ці гадовым юбілеем і жадаем яму моцнага здароўя, доўгага зямнога жыцця, новых творчых поспехаў ва ўсіх галінах яго дзейнасці.

*Мікалай Крыўко,*
*вядучы навуковы супрацоўнік інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
**http://tbm.org.by/ns/**



*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 3. 02. 2003 г.
Наклад 2300 асобнікаў. Замова № 257.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 458 руб., 3 мес.- 1374 руб.
*Кошт у розніцу:* 120 руб.